# СТУДЭНЦКАЯ ДУМКА

НАКЛАД 999 асобнікаў

## ВЕРАСЕНЬ 1994

**У красавіку гэтага года ў Мінску адбылась Першая сустрэча беларускай моладзі свету на якую з'ехаліс маладыя беларусы з усіх куткоў нашай рэспублікі, краін былога СССР і Польшчы. Сярод іншых цікавых мерапрыемстваў пад час гэтай сустрэчы працавала секцыя «Бізнесовае супрацоўніцтва». Сваімі думкамі аб ёй мы папрасілі падзяліцца вядучага гэтай секцыі, сябру выканкама 1 сустрэчы моладзі сьвету, дырэктара фірмы «Кальварыя» Алеся Стральцова.**

-- *Чаму акрамя секцый «Культура» і «Турызм» арганізатары вырашылі правесці секцыю «Бізнесовае супрацоўніцтва»*|

-- Патрэба гэтай секцыі ўзнікла таму, што ў беларускім руху да гэтага часу не было выпрацаванай канцэпцыі на конт таго, як бізнес мусіць супрацоўнічаць з адраджэннем Беларусі, беларускай дзяржавы. Дзеля гэтага сабраліся людзі, якія з аднаго боку зацікаўлены ў развіцці беларускай справы, а з другога, маюць дасведчанне ў галіне бізнесу, і мы паспрабавалі вызначыць гэту канцэпцыю.

-- *Адкуль былі ўдзельнікі гэтай секцыі, каго яны прадстаўлялі*|

-- Гэта былі прадстаўнікі разнастайных маладзёжных арганізацый, маладзёжных аддзелаў палітычных партый, беларусы з-за межаў нашай рэспублікі, якія працуюць у галіне бізнесу. З вядомых беларускіх прадпрымальнікаў прысутнічаў прэзідэнт «Дайновы» Адам Палюховіч, які распавёў пра стварэнне і дзейнасць сваёй фірмы. -н таксама сфармуляваў прынцыпы, якія дапамаглі яго фірме стаць на нагі. Як ён зазначыў, гэта давер да людзей, падбор спецыялістаў і разлік на перспектыву.

-- *Чаму, на Ваш погляд, прадстаўнікі маладзёжных арганізацый, у тым ліку палітычных партый, пачалі цікавіцца бізнесам?*

-- Гэта зацікаўлінне зразумелае, паколькі любы рух патрабуе матэр»яльных сродкаў для сваёй дзейнасці. Моладзь гэта разумее лепей, чым прадстаўнікі больш сталага ўзросту, якія былі выхаваны пры савецкай сістэме. Раней усе арганізацыі стварались па мадэлі КПСС, а яна, як ведама, фінансавалась за кошт дзяржавы. Цяпер дзяржава не мае ні жадання, ні сродкаў падтрымліваць грамадскія арганізацыі. Але для рэалізацыі сваіх мэтаў, у тым ліку адраджэння беларускай дзяржавы, патрэбны сродкі, і не малыя. Таму, каб разгледзіць магчымасці супольна зарабляць грошы і сабралася зацікаўленная моладзь з гэтых арганізацый на секцыі «Супрацоўніцтва ў бізнесе»

-- *Ці былі выпрацаваны на секцыі нейкія рэзалюцыі?*

-- Не, але была выпрацавана рэкамендацыя. Пасля абмеркавання мы прыйшлі да высновы, што маладым беларусам лепей ўваходзіць ва ўжо існуючыя фірмы і набірацца ў іх вопыту, замест таго каб адразу ствараць уласныя, бо бізнес патрабуе высокага прафісіяналізму.

-- *На сустрэчы беларускай моладзі свету прысутнічалі прадстаўнікі з Латвіі, Летувы, Польшчы. На колькі адрозніваюцца ўмовы бізнесу там і на Беларусі?*

-- Я бы хацеў адказаць словамі Адама Палюховіча, што асноўны цяжар высокіх падаткаў кладзецца на спажыўца. Усе нашы падаткі, якія вышэйшыя, чым у іншых краінах, аўтаматычна закладаюццаў цэны тых прадуктаў, якія мы набываем у крамах. Але для людзей, якія вырабляюць або перапрадаюць прадукт, гэта вялікай ролі не грае. Іншая справа, што наша дзяржава скарумпавана зврху да нізу, таму бізнес у нас могуць рабіць тыя людзі, якія маюць сувязі. А як нам вядома, іх найболей у былых функцыянераў кампартыі, якія на гэтых сувязях робяцьсапраўдны бізнес, па сур'ёзнаму. А тая хваля бізнесменаў, якая паднялася пасля перабудовы, яна мае меншыя сувязі, адпаведна і прыбыткі.

-- *Якія практычныя вынікі дала сустрэча для фірм удзельнікаў?*

-- На вялікі жаль, практычных рашэнняў для фірм гэтая сустрэча не дала, і як я потым зразумеў, даць не магла, бо там сабраліся не толькі бізнесмены, але і людзі, якія раней займаліся справай культурнай або палітычнай і хацелі б зрабіць шмат чаго ў бізнесе, але не маюць патрэбнага вопыту. Сустрэчай моладзі свету створаны выканаўчы камітэт, які праз год-два павінен склікаць другую сустрэчу, на якую будуць запрашацца таксама

Працяг на стар. 8

**З гэтага нумару Студэнцкая думка пачынае друкаваць сэрыю матэрыялаў па правах студэнтаў. Матэрыялы падрыхтаваныя на аснове дзеючых нарматыўных дакумэнтаў Міністэрства адукацыі і навукі. Прапануем ўвазе чытача выпуск, прысьвечаны пражываньню студэнтаў у інтэрнатах навучальных устаноў**

# ПРАЖЫВАНЬНЕ СТУДЭНТАЎ У ІНТЭРНАТАХ

## ПАРАДАК ВЫДЗЯЛЕНЬНЯ ЖЫЛПЛОШЧЫ

1. Хто лічыцца маючым патрэбу ў інтэрнаце?

Усе іншагароднія студэнты, асьпіранты, абітурыенты, слухачы падрыхтоўчых адзяленьняў інстытутаў і факультэтаў павышэньня кваліфікацыі прызнаюцца тымі, хто мае патрэбу ў жылой плошчы ў інтэрнаце.

Студэнтам, слухачам падрыхтоўчых адзяленьняў, якія пражываюць у дадзеным населеным пункце, жылая плошча ў інтэрнаце можа выдзяляцца толькі ў выключным выпадку.

2. Хто разьмяркоўвае месцы ў інтэрнаце паміж факультэтамі?

Разьмеркаваньне месцаў паміж факультэтамі, адзяленьнямі і курсамі праводзіцца па сумесным рашэньні адміністрацыі і прафкаму студэнтаў і аб'яўляецца загадам кіраўніка навучальнай установы.

3. Як праводзіцца ўлік студэнтаў, што маюць патрэбу ў інтэрнаце?

Улік праводзіцца на падставе заяў, пададзеных на імя адміністрацыі навучальнай установы. Да заявы могуць па патрабаваньні адміністрацыі ВНУ прыкладацца даведкі аб складзе сям'і, заробку бацькоў, праве на першачарговае ці нечарговае атрыманьне жылога памяшканьня і іншыя дакуманты.

4. Каму інтэрнат выдзяляецца ў першую чаргу?

1) Студэнтам і слухачам падрыхтоўчых адзяленьняў зь ліку дзяцей-сірот і дзяцей, бацькі якіх пазбаўлены бацькоўскіх правоў;

2) Выхаванцам дзіцячых дамоў і школ-інтэрнатаў;

3) Інвалідам зь дзяцінства.

5. Каму жылплошча ў інтэрнаце выдзяляецца па-за чаргой?

1) Студэнтам, якія ў адпаведнасьці з Законам «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпелых ад катастрофы на ЧАЭС» карыстаюцца правам нечарговага атрыманьня жылых памяшканьняў;

2) Студэнтам, якія выбылі з інтэрната ў сувязі з прызывам на абавязковую тэрміновую вайсковую службу, у выпадку, калі яны пасьля звальненьня вярнуліся ў навучальную ўстанову.

6. Якія дадатковыя ўмовы прадстаўляе адміністрацыя ВНУ сямейным студэнтам?

Такім студэнтам павінны быць выдзелены абсталяваныя памяшканьні для кухні, пральні, сушкі бялізны, калясачнай, акрамя таго адміністрацыя навучальнай установы павінна садзейнічаць забясьпячэньню дзяцей студэнтаў месцамі ў дашкольных установах.

7. Што яшчэ трэба ведаць сямейным студэнтам?

Жылая плошча ў інтэрнаце выдзяляецца тым сем'ям, у якіх муж і жонка з'яўляюцца іншагароднімі студэнтамі. Пры адлічэньні аднаго зь іх з навучальнай установы (пасьля заканчэньня яе або па іншых прычынах) пытаньне аб захаваньні пакоя за мужам або жонкай разглядаецца адміністрацыяй навучальнай установы з улікам меркаваньня прафсаюзнага камітэту студэнтаў у двухтыднёвы тэрмін. Калі сям'я складаецца са студэнтаў розных ВНУ, то выдзяленьне асобнага пакоя ў інтэрнаце ажыцьцяўляецца па дамоўленасьці паміж адміністрацыяй гэтых навучальных устаноў.

## КАРЫСТАНЬНЕ ІНТЭРНАТАМ

8. Як адбываецца ўсяленьне студэнтаў у інтэрнат?

Усяленьне ажыцьцяўляецца загадчыкам інтэрнату на падставе загаду навучальнай установы, дадзеных пашпарту, мэдычнай даведкі і дамовы аб захаваньні маёмасьці. Таму, хто ўсяляецца ў інтэрнат, выдаюць пропуск і пад распіску неабходны інвентар і пасьцельныя рэчы.

Улік жыльцоў у інтэрнаце, афармленьне прапіскі і выпіскі робіцца пашпартыстам.

9. Ці могуць пражываць у інтэрнаце абітурыенты?

Так, на перыяд здачы уступных экзаменаў ім прадастаўляюцца месцы на падставе сьпісаў, што прадставіла адміністрацыя ВНУ. Абітурыенты, якія атрымалі незадавальняючыя адзнакі на экзаменах, і тыя зь іх, хто падаў апеляцыю, вызваляюць месца ў інтэрнаце на працягу аднаго-трох дзён з дня аб'яўленьня вынікаў эк-

заменаў або пасьля разгляду апеляцыі.

10. Якія правы маюць жыхары інтэрната?

1) карыстацца жылой плошчай, памяшканьнямі вучэбнага і культурна-бытавога прызначэньня, абсталяваньнем, інвентаром інтэрната і камунальна-бытавымі паслугамі;

2) выбіраць органы самакіраваньня інтэрната і быць абранымі ў яго састаў;

3) удзельнічаць у абмеркаваньні і вырашэньні ўсіх пытаньняў жыцьцядзейнасьці інтэрната; 4) уносіць органам самакіраваньня, грамадзкім арганізацыям і адміністрацыі ВНУ прапановы аб паляпшэньні работы інтэрната, арганізацыі вольнага часу жыхароў, разьвіцьці і ўмацаваньні матэрыяльнай базы і дабівацца іх рэалізацыі; 5) патрабаваць своечасовай зьмены абсталяваньня, мэблі і прадметаў культурна-бытавога прызначэньня, якія сталі непрыгоднымі, акрамя выпадкаў, калі абсталяваньне і інвентар пашкоджаны і выведзены са строю па віне жыхароў.

11. Якія абавязкі насуць жыхары інтэрната?

1) выконваць правілы ўнутранага распарадку, аховы працы і тэхнікі бясьпекі пры карыстаньні газавымі, электрычнымі і іншымі прыборамі, пажарнай бясьпекі, эканомна расходаваць электраэнэргію, газ і ваду;

2) беражліва адносіцца да ўласнасьці інтэрната, падтрымліваць чысьціню ў жылых памяшканьнях і месцах агульнага карыстаньня;

3) выкарыстоўваць жылую плошчу, памяшканьні культурна-бытавога прызначэньня, абсталяваньне і інвентар у адпаведнасьці з іх прызначэньнем;

4) пакрываць нанесены матэрыяльны ўрон у адпаведнасьці з дзеючым заканадаўствам;

5) пры выбыцьці з інтэрната здаць маёмасьць інтэрната і прывесьці ў належны парадак пакой і іншыя памяшканьні, якія знаходзіліся ў карыстаньні.

### ПЛАТА ЗА КАРЫСТАНЬНЕ ІНТЭРНАТАМ

12. Які памер платы за карыстаньне інтэрнатам?

Для студэнтаў вышэйшых, навучэнцаў сярэдніх спэцыяльных і прафесійна-тэхнічных навучальных установ, слухачоў падрыхтоўчых аддзяленьняў ВНУ яна устанаўліваецца ў памеры 10% ад мінімальнага (базавага) узроўню стыпендыі адпаведных катэгорых навучэнскай моладзі. Для аспірантаў вышэйшых навучальных установ і навукова-даследчых інстытутаў, абітурыентаў, студэнтаў і навучэнцаў завочнай формы навучання стаўкі за карыстанне жылплошчай вызначаюць выканкамы абласных і Менскага гарадзкога Саветаў народных дэпутатаў.

13. Ці залежыць памер платы ад умоваў пражываньня ў інтэрнаце?

Так, для гэтага базавы (10% ад мінімальнай стыпендыі) памер аплаты памнажаецца на каэфіцэнт, які залежыць ад разраду інтэрната. Для інтэрнатаў 1-шага разраду каэфіцэнт складае 1.2, 2-га - 1.0, 3-га - 0.8; 4-га - 0.6.

13. Якім патрабаванням павінны адпавядаць разрады інтэрнатаў?

Інтэрнат 1-шага разраду павінен мець: вадаправод, каналізацыю, цэнтральнае ацяпленьне, гарачае водазабесьпячэньне, ліфт, двухпакаёвыя блокі з поўным санвузлом (умывальнік, унітаз, душ) пры памеры жылой плошчы звыш 6 кв.м. на жыхара. У адным пакоі павінна пражываць не больш за 2-3 чалавекі. Інтэрнат 2-га разраду павінен мець: вадаправод, каналізацыю, цэнтральнае ацяпленьне, гарачае водазабесьпячэньне, ліфт, многапакаёвыя блокі (не больш за 4 жылыя пакоі ў адным блоку) з поўным санвузлом (умывальнік, унітаз, душ): памер жылой плошчы 6 кв.м. на жыхара. У адным пакоі павінна жыць не больш за 3-4 чалавекі. Інтэрнат 3-га разраду павінен мець: вадаправод, каналізацыю, цэнтральнае ацяпленне, гарачае водвзвбесьпячэнне, умывальнік і туалет агульнага карыстання, душавыя памяшканні; памер жылой плошчы 6 кв.м. на аднаго жыхара. У адным пакоі павінна жыць не больш за 4 чалавекі. Інтэтнат 4-га разраду павінен мець: вадаправод, каналізацыю, ацяпленне, умывальнік, туалет агульнага карыстання, жылую плошчу ў памеры 6 кв.м. на аднаго жыхара.

**КРЫНІЦЫ ІНФАРМАЦЫІ:**

1. Часовае палажэнне аб інтэрнаце навучальнай установы. Зацверджана загадам Міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь за 17 сакавіка 1993 г., і 89. Апублікавана ў «Зборніку нарматыўных дакументаў міністэрства адукацыі РБ» і8 / 1993.

2. Пастанова Савета Міністраў РБ за 25 верасьня 1992 г. і590 «Аб памеры платы за карыстанне інтэрнатамі навучальных установ». Аб'яўлена загадам міністэрства адукацыі РБ за 21 кастрычніка, і 230. Апублікавана ў «Зборніку нарматыўных дакументаў Міністэрства адукацыі РБ» і2 /1993.

3. Палажэнне аб дыферэнцыраванай плаце за карыстанне інтэрнатам навучальнай установы». Зацверджана загадам Міністра адукацыі РБ за 11 мая 1993, і 140. Апублікавана ў «Зборніку нарматыўнах дакументаў Міністэрства адукацыі РБ» 8 /1993

**По даручэньні камісіі ЗБС па правах студэнтаў падрыхтаваў**
**АЛЕСЬ ШУТАЎ**

**Нашыя карэспандэнты гутараць зь Зянонам Пазьняком**

# Размова на лірычную тэму

*-- Уявіце сытуацыю: у перапынку на сэсіі Вам перадаюць ландышы ад незнаёмай дзяўчыны. Што Вы думаеце?*

-- Думаю, што нейкая добрая дзявочая душа мяне падтрымлівае і хоча падбадзёрыць. Былі і ландышы. Праўда, я ня люблю іх. Гэта халодныя і, на маё адчуваньне, хваравітыя, «цёмныя» кветкі. Але ў шчырасьці і добрасьці тых, хто перадаваў, я ніколі не сумняваўся, хоць ніколі іх потым ня бачыў.

*-- Вы як каталік -- як вызначаеце межы, за якія можна пераходзіць у каханьні? Наколькі апраўдана і неабходна кантраляваць сябе, спыніцца? Як Вы вызначаеце «грэх»? У пыгодніцкім рамане:»Сутнасьць -- часта гаварыць «так» Богу і «не» -- людзям». Што Вам бліжэй?*

-- Каханьне -- гэта справа дваіх. Мужчыны і жанчыны. Гэта іхняе шчасьце і іхняя таямніца, асьвечаная грамадзтвам, і рэлігіяй Усё добрае і ўсё магчымае, што прыемна абодвум, што прыймаецца разам. Мяжа -- павага да каханай ці каханага. Зьнікае павага, зьнікае і каханьне. Таму ў каханьні не павінна быць прымусу, грубасьці. Вышэйшая сутнасьць павагі -- любоў. Любоў ёсьць аснова сьвету і аснова каханьня.

Цяпер пытаньне, што мне бліжэй: «так» -- Богу і «не» --людзям, ці наадварот. У прыгодніцкім рамане, што Вы прачыталі, відаць, адлюстраваная блытаніна ў ваўтарскай галаве. Нешта накшталт пытаньня, колькі будзе двойчы два -- пяць ці сем? У жыцьці такой супярэчнасьці паміж абавязкамі перад Богам і людзьмі практычна ня ўзьнікае, калі не парушаць запаветы. Але ўсё залежыць ад веры чалавека, моцы яго рэлігійнага перакананьня і разуменьня.

*-- Вашыя любімыя творы аб каханьні? «Канцэпцыя жанчыны» -- калі можна аб такой гаварыць -- якая Вам бліжэй, якой нацыі, якіх пісьменьнікаў?*

-- Калі мне было восемнаццаць гадоў, мае фантазіі кружыліся вакол Патрыцыі Хольман Э.М.Рэмарка («Тры сябры»). Я тады думаў, што гэта выдатны пісьменьнік. Цяпер думаю інакш. Аднак найбольш падабаліся мне коласаўская Ядвіся («На ростанях») і асабліва Данута А.Карпюка ў ваднайменнай аповесьці.

Блізкая і цалкам прыймальная для мяне «канцэпцыя», як Вы кажаце (дакладней, вобраз), беларускае жанчыны, адлюстраваны ў творах Адама Міцкевіча, Вінцука Дуніна-Марцінкевіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Уладзіміра Караткевіча, Аляксея Карпюка. Наогул жа лічу, што беларуская нацыя моцная і адметная сваймі жанчынамі і па зьнешнем харастве, і па характары, і па ўнутраных душэўных якасьцях, і па ролі, якую яны адыгрываюць у жыцьці. Беларускія мужчыны наадварот, калі браць у цэлым, выглядаюць даволі нікчэмна, асабліва ў важнейшых сфэрах нацыянальнага існаваньня. Ім не хапае сьмеласьці, мужнасьці, рашучасьці, ініцыятывы, энэргіі і проста розуму, здольнасьці браць адказнасьць на сябе -- чыста мужчынскіх якасьцяў. Гэтае можна растлумачыць цяжкай паднявольнай гісторыяй апошняга часу, задушэньнем паўстаньняў, генацыдам і г.д. Вынішчаліся ў першую чаргу лепшыя мужчыны. Але самае страшнае ў тым, што прыдушана была нацыянальная сьвядомасьць народа -- духоўны стрыжань культуры, нацыі і дзяржавы. Мужчына, якому прыродай наканавана быць актыўным, бяз духоўнага стрыжня робіцца нікчэмным.

Па сваёй псыхалёгіі беларуская нацыя ёсьць увогуле жаночая нацыя (нацыя жаночай псыхалёгіі). Гэта трэба разумець, але тут ужо іншая тэма. Што датычыць харастваа беларускіх жанчын, то павінен сказаць, што, па маіх уяўленьнях, яны самыя прыгожыя жанчыны ў сьвеце. Дзе б я ня быў у апошні час на Захадзе, ці то ў Вашынгтоне, Таронта, Брусэлі, Нью-Ёрку, Міляне і г.д., там на людных вуліцах я ня бачыў ніводнай прыгожай жанчыны. Гэта неверагодна. Я быў уражаны. Менск, ды што Менск, якаянебудзь Рэчыца -- райскае месца. Ужо за адно гэта трэба бараніць гэтую нашую мілую зямлю ўсімі сіламі і ўсім розумам, а жанчынам казаць толькі ласкавыя словы павагі і захапленьня.

*-- Пытаньні «на падсьвядомасьць»-- якія вобразы ў Вас узьнікаюць пры слове «каханьне»? Як бы Вы гэтае намалявалі? Як у дзяцінстве і як -- цяпер?*

-- Адносна «падсьвядомасьці». Ніколі не задумываўся над гэтай сувязьзю. Але цяпер сам для сябе адкрываю са зьдзіўленьнем, што ўсплываюць карціны травеньскай прыроды, маладая лістота бяроз, ружовы цьвет яблыняў і яркае блакітнае неба. Я разумею прыроду гэтых асацыяцыяў. Травеньскую пару люблю надзвычайна. І жыцьцё мераю ад траўня да траўня, калі цьвітуць вішні. Відаць, нешта ў гэтым ёсьць. Штосьці замыкаецца.

*-- Наколькі Вы ідэаліст? Калі пачытаць уважліва вашыя вершы --адчуваецца воблік жанчыны вашага ўспрыманьня як прыкладна ў Блока: зоркі, сьнегавая халоднасьць, недасягальнасьць, і разам з тым -- пранізьлівая чысьціня. Наколькі для Вас у жанчыне супярэчліва зямное і ўзьнёслае, як Вы гэта для сябе сумяшчаеце? Якія жанчыны Вам здаюцца цікавымі, што навогул чакае ад жанчыны чалавек разумны?*

-- Шчыра кажучы, я зьдзіўлены, што Вы «папалі ў кропку». Чысьціня, чыстасьць, як я лічу, важнейшая катэгорыя эстэтыкі, хараства і важнейшая катэгорыя ацэнкі чалавека. Чалавек павінен імкнуцца быць чыстым у сэрцы, у душы, у думках, у гігене цела. Калі такі чалавек ёсьць -- ён золата: яму ня страшная ніякая грамадзкая ці жыцьцёвая гразь. Да яго яна ня прыстане.

Што датычыць зямнога і ўзьнёслага ў жанчыне «сьнегавой халоднасьці» і г.д., то павінен сказаць, што небясьпечна блытаць літаратурныя рамантычныя вобразы і мастацкія ідэалы з рэальным жыцьцём. На вялікі жаль, узьнёслыя і рамантычныя дзяўчаты, якія прымітыўна выхаваны літаратурай, як правіла, не знаходзяць у каханьні і ў сям_і таго шчасьця, на якое спадзяваліся, а то і ўвогуле кепска канчаюць. У большасьці ніхто, акрамя іх саміх, у гэтым ня вінаваты. Аднабокае выхаваньне, аднабокія ілюзорныя ўяўленьні.

Тое ж датычыць і паэтаў, якія ствараюць ідэальныя вобразы жаночага хараства. Але, дзякаваць Богу, большасьць пігмаліёнаў кахаюць і жэняцца з каханымі дзяўчатамі. І не адзін зь іх ураtаваў гэтым сваю паэзію, здароўе і доўгае жыцьцё. Нельга кахаць свае ілюзіі, прывіды, жаніцца на зданях сваёй фантазіі, нават самых найхарашэйшых. Ідэальнае існуе ў духу, як вобраз, як узор для ўдасканаленьня, як ідэал для імкненьня. Вы, відаць, ужо зразумелі, што ў дачыненьні да жанчыны і жаночага хараства я паважаю больш патрабаваньні народнай эстэтыкі і традыцыйна-народную хрысьціянскую мараль. Жанчына павінна быць шляхетнай. Гэтыя рысы характэрныя для тыповай беларускі. Лічу народныя прынцыпы найбольш здаровымі і выпрабаванымі жыцьцём. Я так лічыў заўсёды і з гадамі толькі пераконваўся. Іншая рэч, што я пражыўшы, ужо пэўна, большую палову свайго веку, не рэалізаваў сваіх перакананьняў. Але гэта ўжо іншая размова. Я ўдзячны Богу і ненаракаю

# з самым нялірычным гэроем палітыкі

на лёс, бо ён склаўся амаль так, як я хацеў.

*-- Вось такая мадэль сытуацыі: 18-гадовы юнак хоча ажаніцца са старэйшай ад яго жанчынай, якая мае сям_ю, але адказвае узаемнасьцю. Што б Вы маглі параіць?*

-- Невядома каму раіць у вашай мадэлі. Восемнаццацігадоваму юнаку, які яшчэ цалкам не сфармаваўся як мужчына, ня кажучы пра ўсё астатняе ў такой сытуацыі, ці безадказнай, лёгкадумнай сямейнай жанчыне. Тут патрэбнае ўмяшаньне бацькоў юнака. Пры тым вельмі рашучае і радыкальнае, без зацяжкі і доўгіх высьвятленьняў, каб не дапусьціць скандалу. Інакш сям_я можа разваліцца, чалавечыя лёсы -- надламацца. Тут якраз той «грэх у каханьні», пра які Вы пыталі ў пачатку -- парушэньне запаведзяў «не пажадай жонкі бліжняга свайго», «не чужалож». Я ўжо не кажу пра тое, што ў юнака сьвет клінам ня сышоўся. Усё жыцьцё -- наперадзе. На чужым няшчасьці шчасьця не пабудуеш.

Ва ўсіх аналягічных выпадках парушэньня гэтае запаведзі адказнасьць падае на мужчыну. Галоўны грэх на ім. Жанчына --істота пачуцьцёвая. У яе слабейшая воля, у яе пасыўная роля ў дачыненьнях палоў. Мужчына ж актыўны бок, ён павінен кіравацца розумам і запаведзямі. Так прадугледжана прыродай. Хрысьціянства гэтае ўлічвае. Таму жанчыне Бог можа даравацъ (невядома толькі, ці даруе муж) гэтак жа, як дараваў Хрыстос прастытуткам, але грэх мужчыны не даруецца. Яго трэба адкупляць, альбо за яго адказваюць. Дарэчы, гэта я пераказаў Вам вядомыя развагі айцоў царквы; я зь імі згодзен.

*-- Вы ўяўляеце грынаўскую Асоль у сучасных умовах? Якая яна, ці жыцьцяздольны гэты вобраз? І ці гэта ідэал жанчыны? Ці не адбудзецца зблізу пертварэньне Асоль ва ўвасабленьне працяглага непаразуменьня? Бо часта наіўнасьць, вера раздражняюць. І калі Асоль і капітан Грэй -- увасабленьне чысьціні і адказнасьці за каханьне -- то як выхаваць Асоль і Грэя? Як бы Вы выхоўвалі жанчыну і мужчыну з уласных дзяцей?*

-- Я ўжо казаў пра гэтае. Ня трэба блытаць Божы дар зь яечняй. Мастацтва -- з жыцьцём, ідэальны мастацкі вобраз -- з канкрэтнымі людзьмі ў рэальных абставінах. Гэтае псэўдамудрагельства некалі высьмейваў Марк Твэн у апавяданьні пра пудзеля зь пербітай лапай. Сапраўднае Боскае мастацтва заўсёды нясе ў сабе духоўны ідэал як узор для духоўнага ўдасканаленьня асобы праз эстэтычнае перажываньне. Але ж не празь сьляпое перайманьне. Эстэтычнае перажываньне адбываецца ў духу, у ідэальнай сфэры асобы і вынікам мае (павінна мець) катарсыс. У гэтым эстэтычная сутнасьць і прызначэньне мастацтва -- набліжэньне да ісьціны і любові праз хараство, бо ісьціна (Бог) заўсёды харошая. Хараство -- функцыя ісьціны. Перайманьне ж ідэальнага (фактычна абстракцыі) і грэхпрадуктаваньне яго ў канкрэтнай рэчаіснасьці нагадвае паводзіны тых міфічных манахаў, што слова Эвангельля «нясіце крыж свой» разумелі літаральна і цягалі з сабою драўляныя крыжы. Нельга ж ідэальны вобраз, увасабленьне ідэй, мастацкія сытуацыі матэр_ялізоўваць на канкрэтнай кухні, у канкрэтнай чарзе, ці камунальнай кватэры. Гэта бязьплённыя параўнаньні і пустыя, непатрэбныя разважаньні. («Асоль у сучасных умовах...» і г.д.). Нельга спажываць мастацтва канкрэтна, як карова сена. Гэта сфэра духу, асэнсаваная праз хараство.

Мушу заўважыць, што на глебе мастацтва, дакладней, літаральнага ці кітчавага (пазаэстэтычнага) яго ўспрыняцьце, узьнік шэраг псыхапатычных комплексаў (хваробаў) каханьня. Я ўжо не кажу пра злачынствы. Гэта выдомы комплекс «пігмаліянізму», якім пакутуюць некаторыя мужчыны, і жаночая псыхапатыя, якую я нядаўна для сябе адкрыў і назваў комплексам Асоль. Дзяўчына, маючы на ўвазе канкрэтнага чалавека зь якім аднак, ніколі не сустракалася, стварае сабе ідэальны вобраз гэтага мужчыны і жыве зь ім у фантазіях, піша яму бясконцыя лісты, якія нагадваюць трызьненьні, зьвяртаецца да яго «мой капітан» (памятаючы Грэя). Словам, псыхічна пакутуе ў неадэкватных абставінах, якіх яна ня здольная перамяніць. Вос чаму, калі б у мяне была б дачка ці сын, я бы абавязкова пастараўся навучыць іх эстэтычна разумець і ўспрымаць мастацтва, паклапаціўся б пра культуру іх эстэтычных пачуццяў.

*-- Паняцці «Радзіма» і «жанчына». Ахвяраваць першай у імя другой ці наадварот. А выбар жа часам узьнікае. Калі б Вам прыйшлося выбіраць -- што б Вы абралі? Якога каханьня б сабе пажадалі, ахвярнага, пакутліва-узьнёслага, наіўнага, бурнага ці спакойнага і ці каханьне на столькі значная рэч, каб сур_ёзна аб гэтым размаўляць?*

-- Радзіма і жанчына -- сутнасьці непараўнальныя для тых, каму дарагая Радзіма. Тым больш, што я яе люблю як сябе помню.

Ці значнае каханьне? Ці трэба пра яго размаўляць? Значнае і трэба. І ня толькі размаўляць, але й вучыцца паводзіць сябе ў каханьні. Найлепшая школа -- сям_я, адносіны бацькі й маці, іхні аўтарытэт. Потым добрая літаратура і розныя псыхалягічныя і этычныя дасьледваньні. Вядома ж, не пра ўсё можна гаварыць публічна. Бо ёсьць сфэра інтымнага, якая датычыць толькі дваіх. Гэта іх права на таямніцу, набытае доўгім шляхам разьвіцця культуры і замацаванае на ўзроўні інстынкту. Пачуцьцё інтымнасьці ёсьць набыты (культурны) інстынкт чалавека, які нельга і небясьпечнга разбураць -- гэта шлях да зьдзічэньня.

Калі жыве проста чалавек нічым няпрыкметны, у якога няма ні таленту, ні становішча ў грамадзтве, ні багацьця, ні славы, ні любімай працы, але ёсьць толькі каханьне, любімая жанчына і ўзаемнасьць -- жыцьцё яго напоўнена сэнсам, яно зьмястоўнае, яму ня сумна жыць. Для жанчыны -- гэта асноўны зьмест жыцьця, бо дае ёй магчымасьць рэалізаваць інстынкт, патрэбу мацярынства і мацярынскую любоў -- самую моцную любоў на Зямлі.

Шчасьце жанчыны ў каханьні, у сям_і і дзецях. Гэта сапраўды так. Хоць шчасьлівых жанчын становіцца ўсё менш. Мы назіраем распад,дэградацыю сям_і і ўпадак маралі. Чаму так адбываецца -- асобная размова. Мэтафізычная сутнасьць зямной гісторыі --барацьба між дабром і злом. Дваццатае стагодзьдзе характарызуецца шалёнай актывізацыяй зла. Хрысьціянству, духоўным людзям вядомыя сэнс і мэтоды гэтае барацьбы. Зьмест таго, што адбываецца лягчэй зразумець верніку. Аднак яшчэ раз нагадаю: грамадзтва трымаецца на культуры, культура -- на маралі, у аснове маралі -- дачыненьні мужчыны і жанчыны, адлюстраванае ў зьмесьце рэлігіі. Хіба не адчуваеце, як зло пастаянна б_е ў вадну кропку? Як адбываецца падмена паняцьцяў, прафанацыя каханьня і замена яго сэксам, зьнявага жанчыны, разбэшчаньне моладзі? Хіба людзі, што дбаюць пра будучыню нацыі, павінны на гэтае спакойна глядзець?

**Гутарку вялі: Ціна Клыкоўская й Вольга Мамчыц**

**Дзяленьне на фармальныя і нефармальныя групоўкі згубіла сэнс. Мы пераходзім ад просталінейнага ўспрыняцьця «за» і «не» да вэртыкальнага руху «у» -- «in».**

Калісьці мне давялося паглядзець спэктакль, пастаўлены амэрыканскімі студэнтамі.. Гэта быў сумесны праект са студэнтамі з Санкт-Пэтэрбурга. (Удзел расейцаў абмяжоўваўся перакладам таго, што казалі амэрыканцы). Спэктакль быў без акрэсьленай фабулы. У час дзеяньня на сцэну выйшаў актор, які граў ролю чалавека, функцыя каторага заключалася ў наступным: яму трэ было проста запоўніць паўзу, нешта гаварыць напрацягу якога дзесятка хвілін. Па пьесе (калі такая існавала) ён быў «чалавек з вуліцы», трохі адукаваны (магчыма студэнт), ці то бугальтар, ці то рабочы па сцэне. Яму трэба было нешта сказаць... нешта адпаведнае кантэксту, тое, што гаворыцца са сцэны. Ён пачаў прамаўляць напаўзабытыя вершыкі, урыўкі паэм, пэўна завучаныя яшчэ ў школе, якія хутка скончыліся. Памаўчаў, потым успомніў вайсковую прысягу, потым нацыянальны гімн, скончылася ўсё вымаўленьнем альфабэта: Эй -- Бі -- Сы -- Ды, ён пераказваў з памылкамі, расейскія перакладчыкі падказвалі яму правільны парадак літар. Гэты эпізод меў на мяне найбольш моцнае эстэтычнае ўзьдзеяньне, чымся іншыя драматычныя творы разам узятыя. Гэта было выклікана месцам і часам, дзе граўся спэктакль. Усьлед за гэроем, я спрабаваў прадказаць, што бы сам рабіў на ягоным месцы (тыповы беларус на месцы тыповага амэрыканца)? Вершы з клясыкі? Многія прадстаўнікі майго пакаленьня, якіх прымусілі ў школе запомніць тое-сёе з Пушкіна, Лермантава і ня вельмі прымушалі запамінаць беларускіх клясыкаў, з «нашага» нічога ня помнілі, а прамаўляць у несваёй мове са сваёй сцэны і перад сваім слухачом ужо не дазваляла сумленьне.

Толькі што адбыліся жніўеньскія падзеі, і гімны, і савецкі, і тагачасны беларускі, страцілі сэнс, толькі што ўтвораны вакуум ня быў запоўнены, тое самае з вайсковай прысягай і іншымі дзяржаўнымі тэкстамі, немагчыма нават вымавіць альфабэт (зрокава ўявіць -- ці то кірыліца, ці то лацініца, ці то абэцэда Станкевіча; спрэчныя пытаньні з вызначэньнем гукаў, вымаўленьне без уяўленьня губляе сэнс. Заставалася маўчаць, маўчаць звышнапружана, нуль сэнсу, які пераходзіць у бясконцасьць, уяўляць аддаленую аналёгію з толькі што выкапаным калодзежам, у які ўжо прабіваецца вада, аднак зачарпнуць яшчэ было нельга. Абсалютовая свабода, прастрацыя, характэрныя ў месцах і часах. калі і дзе ствараецца новая, ці рэанімуецца старая культура.

Апрычоны кайф:

Адметнасьць беларускае сытуацыі ў якасьці калектыўных падсьвядомых архітыпаў. Тут шмат выключных характарыстык, якія даюць падставы казаць пра ўзмоцненасьць у геамэтрычнай прагрэсіі працэсаў, шокавых сытуацый зьвязаных з фармаваньнем ці рэструктуралізацыяй звычайнае культуры (зь яе прыкметамі -- мова, мастацтва, быт, грамдзкія інстытуты), ад уключанасьці ў якую можна абстрагавацца, аддаўшы перавагу адвечным каштоўнасьцям. Адвечныя каштоўнасьці пераплаўляюцца ў новыя сэнсы, якія страчваюць актуальнасьць зараз і тут, і будуць працягвацца «потым» і «там» (прыгожая кветка, аздобленая радыёнуклідамі, губляе прыгажосьць). Каталізатары, якія робяць працэс перафармаваньня жыцьця, агульнавядомыя, камплектацыя іх суб_ектыўная і неперакананучая, аднак неабходная для ўспаміну:

З нашым удзелам, ці ўдзелам бліжэйшых пакаленьняў, упершыню існавалі:

1. Рэлігія: Ад разнастайнасьці стода паганства, цераз усьведамленьне нематэр_яльнага адзінага Бога, у час нашага існаваньня сфармулявана ў калектыўным вымярэньні ідэя атэізму. Ніколі ў вядомым гістарычным адрэзку такой стэрылізацыі мазгоў і душаў ня было.

2. Навука: У першыню пачала існаваць магчымасьць тэхнічнага зьнішчэньня сьвету. Комлпекс «атамнай бомбы» вярнуўся ў вобліку дробнага атамнага тэрарызму (новыя геаграфічныя ўмовы -- распаўсюджваньне па сьвеце старой зброі, вынаходніцтва чырвонае ртуці, што робіць канец больш замаруджаным, аднак больш верагодным).

3. Першы раз верагоднасьць фізычнага зьнішчэньня нацыі. (Біблейскі Чарнобыль).

4. Права: Існаваньне дзяржавы й сацыяльнае сыстэмы, усе ўдзельнікі якой караліся. (Пры чым нацыянальны, сацыяльны статус, этычныя характарыстыкі асобы мелі другаснае значэньне і тольк на час адцягвалі падзею).

5. Мастацтва: Дамінуючая роля соцрэалізму. Навязваньне фантазійных вобразаў, як існуючай рэчаіснасьці.

Калі да гэтых фактараў дадаць суб_ектыўныя меркаваньні астролягаў і прарокаў, накшалт таго, што над тэрыторыяй сучаснае Беларусі з надыходам новае касьмічнае эпохі пачынае сьвяціць той прамень, што ў свой час сагрэў Палестыну і выклікаў да жыцьця хрысьціянства, што адраджэньне чалавецтва пачнецца ці то на ўсходзе Польшчы, ці то на захадзе Расеі. Калі зазямліць на Беларусь інтэлектуальны багаж прадказаньняў пра выключную духоўную ролю Расеі ў будучым чалавецітва ( беларускі -- адмылова рускі, які факусуе ў сабе ўсе белае -- боскае, чыстае, жыцьцястойкае, вольнае), успомніць казаньні пра нявызначаную ў часе і прасторы абетаваную краіну Белаводзе, славянскі адпаведнік Шамбалы («вада»--асацыятыўна-этымалягічная сувязь з «раса»--русь). Можна рабіць пэўныя дапушчэньні пра тое, што цяпер знаходзімся ў цэнтры гістарычных падзей. І калі ня верыць гэтаму, то прадумаць і прапрацаваць пытаньне неабходна.

НАПРАМАК:

Дзейнасьць, якая павінна адначасова адказаць на пытаньне:»Якое месца

## Інфармал
### (Пераадоленьне тэксту)

Беларускае культуры ў сьвеце», і адначасова напрацаваць матэр_ял па выяўленьні сакральнага і эзатэрычнага зьместу розных яе зон (перш за ўсё -- фальклёр, расшыфроўка абрадавых і міфалягічных вобразаў), павінна ўключаць некалькі напрамкаў: Выпрацоўка інфармацыі і яе перадача. Звышматывацыя фармулёўкі і недастатковасьць рэсураў для вырашеньня праблемы выклікаюць неабходнась у карэннай рэарганізацыі ўсіх формаў дзейнасьці чалавека і калектываў. Фактычна, пад узьдзеяньнем сацыяльных, экалягічных і іншых фактараў формы быцьця імкліва мяняюцца пасьля працяглага намінатыўнага адзінства (рацыён, манэра мысьленьня, вонкавае веравызнаньне, маркі аўтамабіляў, памеры і формы жыльлёвых будынкаў, мовы і інш.), хаця і крышталізуюцца ў сваёй нязьменнасьці архітыпічныя формы жыцьця, няўлоўныя для вызначэньня, аднак відавочныя (напрыклад тое, што робіць чалавека прадстаўніком той ці іншай нацыі, таму працэс зьменаў фактычна ўжо ёсьць, узьнікае неабходнасьць у яго сьвядомым накіраваньні на патрэбу асобы і калектыву. Перш за ўсё гутарка павінна йсьці пра вызначэньне грамадзкіх формаў ідэальнага існаваньня як больш рухомых і першасных да прыкладных (адразу ўзьнікае ідэя, потым практыка па ўзоры ідэі). Найбольш актуальнымі і пікавымі вырашэньнямі гэтага пытаньня да апошняга часу паўставалі праблемы ўзаемаадносін, дакладней сынтэзу паміж навукай, рэлігіяй, мастацтвам. Фактычна супрацоўніцтва і зьмена контураў межаў відавочныя, лякалізацыя зараз

ідзе па інструмэньце -- рацыянальнае мысьленьне, вобразнае ўспрыняцьце, містычны вопыт). Цяпер навуковыя фармулёўкі дапаўняюць рэлігійныя дактрыны і разам працуюць у форме вобразаў. Гэтая праблема трансфармавалася ў праблему вынаходніцтва, перадачы і дыфэрэнцыяцыі інфармацыі. З гледзішча такой пастаноўкі пытаньня можна казаць пра дзяленьне розных грамадзкіх калектываў па іх суадноснасьці з інфармацыйнымі плынямі, усьведамленьня зьменаў у форме іх дзейнасьці. Калектывы зьвязаныя з навучаньнем: У параўнаньні з заходнімі мэтодамі навучаньня (У вышэйшых і сярэдніх навучальных установах) сыстэма адукацыі ўяўляецца недасканалай, калі браць канкрэтныя ўмовы і суадноснасьць з названай праб-

## Інфармаці

лемай, то працуе з дакладнасьцю наадварот. Зладжаная машына была прыстасаваная для таго, каб унушаць пэўныя ідэалягічныя дактрыны, нівэліроўку асобы, зьнішчэньне здольнасьці самастойна мысьліць. Мэты і фармулёўкі зьмяніліся, аднак сутнасьць і каркас мяняюцца вельмі марудна. Калі браць заходнюю мэтоду навучаньня, то тут можна казаць пра ар_ентацыю на канкрэтную асобу, аднак разам з тым назіраеца паслабленьне і адвольнасьць навуковае базы, прыкладная ар'ентацыя, і тое, якая сябе не апраўдвае (мільёны няпісьменных у тых жа ЗША). Мы стаім перад неабходнасьцю стварэньня ўласнае мэтодыкі, якая б адрозьнівалася ад «заходняй» ня менш, чым ад «саўковай». Акцэнты бачацца ў наступным: пераход ад разуменьня выкладчыка і студэнта -- як перадатчыка і прыймача інфармацыі, да разуменьня іх -- як супрацоўнікаў, акцэнт не на перадачу ведаў, а ўменьне іх здабываць, стварэньне непасрэднай сувязі між навучаньнем і практычнай працай. Першым крокам ў падыходзе да гэтага зьяўляецца распрацоўка і ўвядзеньне ў навучальныя праграмы трох новых курсаў:

1. Уводзіны курсаў рацыянальнага чытаньня, запамінаньня і перапрацоўкі ведаў, акцэнтаваныя на дыфэрэнцыяцыю інфармацыі, ўспрымаемай слыхам і зрокам. Пры арганізаваным скарыстаньні напрацовак, якія ўжо маюцца, можна павысіць у хуткм часе здольнасьці па ўспрыманьні інфармацыі ў 6-10 разоў па аб_ёме і непараўнальна па якасьці.

2. Курс навуказнаўства -- інфармаваньне аб дзенасьці канкрэтнага ВНУ, распрацоўках катэдраў і канкрэных дасьледчыкаў, інфармаваньне аб навуковых праектах, да якіх могуць непасрэдна спрычыніцца студэнты.

3. Псыхалёгія навучаньня -- вывучэньне псыхалягічных умоў навучаньня, перашкодаў, стымулаў, вопыту пасьпяховых і непасьпяховых навучэнцаў.

Пасьля гэтага пачне прагаворвацца стратэгія стварэньня ўмоў для разьвіцьця індывідуальнасьці, ар_ентацыя на разьвіцьцё звышздольнасьцяў ні як выключэньня, а правіла. Павінна адбыцца зьмена схемы: праслухаў курс лекцый, адпрацаваў на практычных (лябараторных) пэўны навык; пачытаў падручнікі перад іспытам, у выпадку студэнта; прачытаў курс лекцый, адрэпэтаваў пэўны навык, у выпадку выкладчыка. Гэтыя зьмены бачацца ў пастаноўцы мэты: не выкладаньне тэмы, а абмеркаваньне тэмы. Не канспэкт лекцыі, а рэцэньзія на лекцыю, ня рэпэтыцыя на практычных, а стварэньне арыгінальнага падыходу, усьведамленьне таго, што, калі ў аўдыторыі сабралася пэўная колькасьць людзей, то заканамерным і правільным вынікам іх сустрэчы павінен быць новы погляд на тэму, што калі сабраліся каб проста патрэніравацца, то гэта ўжо не навучаньне, а спорт. Фактычна, кожная акадэмічная гадзіна згубленая на пераліваньне інфармацыі з аднаго мозгу ў некалькі іншых ня прыносіць station... 

Рэлігія:

Фактычна ўсе схемы веравызнаньня працуюць на ажыўленьне аднаго -- містычнае пачуцьцё, якое знешне праяўляецца праз этычныя дагматы. Ёсьць розныя вонкавыя формы, якія праяўляюцца ў тэалёгіі той ці іншай сыстэмы, быце, форме мысьленьня. Гэтыя розныя формы уступаюць у канфлікт, што вядзе да міжрэлігійных усобіц. Неабходны пошук пунктаў узаемадзеяньня, дзе б розныя вонкавыя праявы траплялі ў рэзананс, што выклікала б супрацоўніцтва між рознымі рэлігійнымі аб_яднаньнямі. Калі ўлічваць, што ў нашай калектыўнае сьвядомасьці самы слабы рэлігійны забабон у сьвеце (што выклікана вычышчэньнем веры і разам зь ёю забабона атэізмам), такая дзейнасьць павінна даць плён. Узаемадзеяньне між рэлігіямі на мэнтальным узроўні -- гэта ня штучная зьвязка паміж тэрмінамі, поглядамі, а пошук агульных сакральных зьместаў і ўсведамленьне прычынаў разыходжаньня. У кожнай рэлігіі асноўны матэр_ял мае выдатную здольнасьць і мэтодыку для супрацоўніцтва з тымі, з кім нельга пагадзіцца («палюбі ворага свайго»). Можна сьцьвярджаць, што ніводная рэлігія ня мае абсалютовага значэньня для ўсіх. Кожны чалавек мае свае характарыстыкі, псыхалягічныя, сацыяльныя і іншыя, таму кожны «слова» успрымае па свойму, і для кожнага ёсьць свае ўмовы для ўспрыняцьця канцэпцый, этычных і містычных накірункаў. (Адзін у дзяцінстве бачыў сьмерць, баіцца яе, яму патрэбная аргумэнтацыя, якая падтрымлівае існаваньне пасьля сьмерці, другі ня бачыў сьмерці, яго гэтае не хвалюе, можа навогул абысьціся атэізмам). Галоўная мэта рэлігій у дадзеным накірунку бачыцца ў тым, каб для распаўсюджаньня і прыняцьця веры галоўную ролю адыгрывалі фактары невыпадковыя, а залежныя ад асобы. Скажам, прымае чалавек тую ці іншую веру не таму, што побач стаяла царква, касьцёл, цэнтар рэлігіі новай ар_ентацыі, а таму што яму падабаецца арган, хор, ці ігра на гітары, не таму, што сустрэў місіянэра, і ва ўпэўненасьці, што акрамя дадзенай сэкты ніхто не займаецца дабрачыннасьцю, уступіў у яе, а параўнаўшы дабрачынныя праграмы, можа выбраць тое, што яму здаецца больш значным. Каардынацыя дзейнасьці можа йсьці па наступных накірунках:

1. Выданьне зборнікаў, дзе б параўноўваліся тэалягічныя дактрыны і практынычныя дзеяньні мясцовых цэнтраў, адпаведнае распаўсюджаньне іх у цэнтрах.

2. Стымуляваньне стварэньня новых поглядаў у межах канкрэтнае рэлігіі, магчымасьць іх структуралізацыі па за яе межамі, арганізацыя новых рэлігій, якія адпавядалі б патрэбам розных людзей і былі б пераходнымі мастамі да аўтарытэтаў.

3. Адаптацыя тэалёгіі пад беларускі кантэкст.

Зьмены ў рэлігійных адносінах і адукацыйным працэсе павінны выклікаць адпаведную эвалюцыю ў сродках масавай інфармацыі, мастацтве, псыхалёгіі, палітыцы.

**Алесь Туровіч**

**Працяг са старонкі 1**

прадстаўнікі дыяспары з Амерыкі ды іншых краін далёкага замежжа. Тады, я спадзяюся, збяруцца беларускія прадпрымальнікі, якія ўжо разгарнулі справу і маюць нейкія напрацоўкі, і параюцца, як лепей весці барацьбу з канкурэнтамі, за захоп новага рынку, як ва ўмовах канкурэнцыі дапамагаць адзін аднаму.

-- *Якая, на Ваш погляд, найбольш важная праблема развіцця Беларусі?*

-- Асноўная наша праблема, як мне бачыцца, у тым, што на Беларесі няма сваёй буржуазіі. Усе «нармальныя» еўрапейскія краіны, такія як Польшча, Славакія, Эстонія, стварыліся менавіта з высілкаў буржуазіі, «сярэдняга класа», які існаваў у гэтых краінах і ў інтарэсах якога было існаванне гэтых краін. Як для вышэйшага класа - магнатаў, так і для ніжэйшага - люмпенаў, існаванне нацыянальнай дзяржавы не з»яўляецца каштоўнасцю. Яны больш мысляць у касмапалітычных катэгорыях. так для люмпенаў гэта калбаса, а для магнатаў - транснацыянальныя карпарацыі. А існаванне нацыянальнай дзяржавы вельмі важнае для існавання сярэдняга класа. Калі ёсць прадпрымальнікі, сярэдні клас,-- ёсць нацыянальная дзяржава. І наадварот, калі ёсць нацыянальная дзяржава -- ёсць сярэдні клас. Праз гэта можна зразумець, чаму не стварылась беларуская дзяржава ў год сусветных пераўтварэнняў -- 1917-18. Найпепш таму, што пераважная колькасць нашай буржуазіі пайшла на карысць польскай дзяржавы. Менавіта з-за адсутнасці беларускай дзяржавы не стварылась у нас дзяржава ў тыя часы. Адсюль сучасныя нашы праблемы. Праіснуй беларуская дзяржава хаця б дзесяць гадоў, мы мелі б гістарычную памяць пра тое, што сярэдні клас існаваў, і добра разумелі, як гэта было тады і як гэта мусіць быць зараз.

-- *Якія планы на будучае ў Выканкама сустрэчы беларускай моладзі свету*|

-- На цяперашні момант мы забясьпечваем абмен інфармацыяй і каардынаванне дзейнасці маладых беларусаў розных краін, а праз некалькі гадоў збіраемся склікаць 2 сустрэчу беларускай моладзі свету.

## СТУДІНФОРМ

### Заява Задзіночання Беларускіх Студэнтаў

23-га жніўня Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў распаўсюдзіла заяву, у якой акцэнтуецца ўвага на тое, што да гэтага часу ў так званай «чарнобыльскай зоне», напрыклад, у Нароўлі, Хойніках, Будзе Кашалёўскай дзейнічаюць сярэднія спэцыяльныя і прафэсійна-тэхнічныя навучальныя ўстановы. Гэтае лічыцца недапушчальным, бо вучоба ў зоне радыяцыйнага забруджаньня пры радыяцыі 17 кюры на квадратны кілямэтар (ПТВ сельскага спадарчай вытворчасьці ў Нароўлі -- месцы, дзе павінна быць забаронена вядзеньне сельгасвытворчасьці). Зыходзячы з гэтага, ЗБС патрабуе перавесьці гэтыя навучальныя ўстановы разам з навучэнцамі ў чыстыя районы Беларусі.

26 верасьня ў Менску адбылася сустрэча кіраўніцтва Свабоднага Прафсаюза Студэнтаў і Задзіночаньня Беларускіх Студэнтаў са старшынём выканкама расейскага прафсаюза «Студенческая защита» Дзьмітрыем Кастэнкам. У ходзе перамоваў была заключана дамова аб супрацоўніцтве, узаемадзеяньні пры правядзеньні акцый і абмене інфармацыяй. Як зазначыў старшыня Свабоднага Прафсаюза Студэнтаў БДУ Ігар Тышкевіч, «студэнты Расеі й Беларусі аднолькава бязпраўныя, і каб палепшыць сытуацыю трэба супрацоўнічаць».

### Аршанскі фэст -- 94

19-22-га жніўня пад Оршай адбыўся «Аршанскі фэст - 94» -- традыцыйны фэстываль беларускае бардаўскае песьні. Удзельнікі прайшлі тым жа шляхам які ў далёкім 1514-м ішлі войскі Астрожскага да знакамітае ракі Крапіўны. У гэтым годзе акцыя мела чын вандроўкі: днём удзельнікі праходзілі па 10-15 кілямэтраў, а ўвечары каля вогнішча сьпявалі барды.

### ЗВАРОТ ЗАДЗІНОЧАНЬНЯ БЕЛАРУСКІХ СТУДЭНТАЎ ДА РАСЕЙСКАГА НАРОДА

**Дарагія браты і сёстры!**

З кожным годам пашыраюцца антырускія настроі сярод некаторых колаў у Расейскай Фэдэрацыі. Гэтыя здраднікі нашай рускай мовы і веры пнуцца адарваць малодшых братоў -- расейцаў ад вялікай сям'і рускага народу, распаўсюджваюць чуткі, якія абражаюць і крыўдзяць нас, старэйшых братоў -- беларусаў. Яны падбухторваюць малодшага брата нападаць на старэйшага, адбіраць у яго маёмасьць, карыстаючыся з нашай дабрыні і талерантнасьці, рахманнасьці і гасьціннасьці. Спакон веку мы, браты вашыя старэйшыя, сумленна выконвалі свае братэрскія абавязкі. Вучылі вас, браты нашыя малодшыя, пісаць і друкаваць, будаваць і ваяваць. Чаму ж некаторыя з вас, забыўшыся на ўсё нашае сумеснае жыцьцё, нахабна завуць сабе «старэйшымі братамі», імкнуцца не ўзгадваць супрацоўніцтва паміж нашымі народамі. Адным зь яскравых прыкладаў гэтай антырускай кампаніі зьяўляецца імкненьне некаторых асоб у Расейскай Фэдэрацыі, а таксама рэнэгатаў сярод беларусаў, ператтварыць 480-я ўгодкі слаўнай бітвы пад Воршаю ў падзею, якая сее варажнечу паміж старэйшым братам - беларусам і малодшым братам - расейцам. Але ж гэта было яскравым сьведчаньнем вайсковага супрацоўніцтва, калі беларусы пад кіраўніцтвам Кастуся Астрожскага прадэманстравалі магчымасьці артылерыі і правялі паказальны разгром вялікіх злучэньняў малымі сіламі. Таму няхай гэтая падзея не разьядноўвае беларусаў і расейцаў, а зьявіцца добрым прыкладам адносінаў паміж братамі. Браты і сёстры! Толькі тады, калі малодшы будзе слухацца і паважаць старэйшага, стане магчымым дабрабыт і спакой у нашых краінах!

Заснавальнік і выдавец — Задзіночаньне Беларускіх студэнтаў
**Рэдакцыйная калегія: Аляксей Глушко, Ігар Тышкевіч, Андрэй Іваноў, Юрась Бушлякоў**
**Макет выраблены пры ўдзеле Літаратурна-мастацкае суполкі**